Пра Івана Навуменку, які ніколі не «бранзавеў», чытайце на 6-й стар.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


№ 17 (4475)

28 лютага 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.





# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Атомная западня

На днях пресс-служба «Белэнерго» отрапортовала о подключении к БелАЭС воздушной высоковольтной линии 330 кВ «Белорусская АЭС – Поставы №2». Со всей энергосистемой АЭС будет связана по семи высоковольтным линиям. Они все построены, но подключены пока четыре.

Остается главный вопрос: готова ли к принятию электроэнергии с АЭС белорусская экономика? Решение о строительстве атомной электростанции под носом у Вильнюса было принято в 2008 году без всякого общественного обсуждения, его пролоббировали в первую очередь чиновники Минэнерго. Без учета альтернативных мнений специалистов. Например, профессор Лепин утверждал, что в АЭС нет никакой необходимости, что достаточно модернизировать действующие ГРЭС и шире использовать возобновляемые источники энергии (ГЭС, ветряки), местные топливные ресурсы (древесину и отходы), которых в Беларуси более чем достаточно.

Идеологи АЭС рассчитывали, что электропотребление в Беларуси может достигнуть в 2020 году 47 млрд кВт·часов. Но, к примеру, в 2018 году оно составило 37,8 млрд кВт·часов, а на 2020 год запланировано 39,9 кВт·часов. Естественно, было упование на большой экспорт электроэнергии, который принесет валюту, а сама АЭС позволит сократить закупки природного газа у России и уменьшить от нее энергозависимость.

Станут ли эти расчеты реальностью – трудно сказать. Но несмотря на протесты многих ученых, стройка века была запущена под связанный российский кредит в 10 миллиардов долларов. Если мне память не изменяет, кредит на пять лет и под солидные для доллара проценты. Процентную ставку не афишировали, но говорят, не менее 5% годовых.

Если и без АЭС экономика и население Беларуси удовлетворяют свои потребности, осталось молиться лишь на экспорт электроэнергии. В России и Украине достаточно своей, следовательно, идеологи АЭС рассчитывали на ее экспорт в страны Балтии, в Польшу и другие страны ЕС. Первый и решительный удар по этим планам нанесла, как известно, Литва, которая не может смириться с БелАЭС у своих границ и недалеко от столицы, тем более что о надежности российских АЭС ходят легенды с 1986 года. Об отказе от покупки электроэнергии с БелАЭС сразу объявила и Польша. Более того, Литва добивается подписания соглашения между странами Балтии и Польшей с обязательством отказаться от покупки электроэнергии, вырабатываемой на БелАЭС. Колеблется только Латвия. Прибалты уходят от российской энергосистемы и ориентируются на ЕС. А в энергосистеме ЕС «гранаты другой системы», то есть она не синхронизируется с российской. Литва еще препятствует, к примеру, процессу вступления Беларуси в ВТО и при случае строит другие козни.

В создавшейся ситуации надо срочно увеличивать электроемкость собственной белорусской экономики, чтобы «переварить» киловатт-часы первого блока АЭС, которые обрушатся на нее со дня на день, то есть в этом году. Понимая возникшую проблему, на разных совещаниях глава государства задавал вопрос: когда ему на стол положат четкую концепцию по адаптации АЭС в экономику страны? И положили. Там и строительство новых энергоемких производств на «Амкодоре» (421 млн рублей), и модернизация МТЗ (26 млн рублей), и электрификация БЖД (420 млн рублей), модернизация котельных ЖКХ, и электроплиты в домах вместо газовых, выпуск электромобилей на «Белджи» и т.д. и т.п. Когда начали считать, во что это выливается, получили многомиллиардные капиталовложения, взять которые неоткуда.

Как только запускается первый блок АЭС, через полгода необходимо возвращать «атомный кредит» России. Любое нарушение графика возврата долгов чревато большими штрафными санкциями. Поэтому белорусские власти всячески затягивают пуск первого блока, по поводу чего россияне уже высказали недовольство. Все попытки белорусской стороны уменьшить кредитную процентную ставку или реструктуризировать (отсрочить) кредит натолкнулись на отказ кредитора (госкомпании «Росатом»). Как заявил замминистра финансов России, «это против финансовой теории». В принципе, он прав. Потому что реструктуризация предполагает и повышенные проценты за отсрочку.

Таким образом, вместо сомнительной энергетической автономии (ведь топливо на АЭС поставляет Россия) Беларусь получает дополнительное увеличение и так обременительной финансовой зависимости от восточного соседа. Вопрос можно поставить ребром: откуда возьмем валюту для расчетов с кредитором, если не видно энергетических экспертных перспектив? Это существенно ослабляет переговорные позиции белорусского руководства с правительством России. К внешним госдолгам, по которым Беларусь ежегодно выплачивает порядка 3 млрд долларов, присоединятся выплаты по «атомному кредиту» при отсутствии ясных перспектив окупаемости станции. И так напряженная долговая ситуация при отказе России во всякой помощи (подачки по нефти не в счет) может вылиться в окончательную финансовую западню. Или, как сейчас говорят, в суверенный дефолт. В конце концов все это, в том числе и профессиональная неквалифицированность ответственных людей, выливается сегодня в еще одну угрозу нашему белорусскому суверенитету.

**Калектыў рэдакцыі газеты «Народная Воля» выказвае шчырыя спачуванні Станіславу Дубянецкаму ў сувязі са смерцю сына Эдуарда.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Сума штрафаў за акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй – 65 тысяч долараў!

*Праваабарончы сайт spring96.org падвёў вынікі пакаранняў за акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй, якія праходзілі ў Беларусі ў снежні.*

Агулам прайшлі 202 судовыя працэсы, асудзілі 132 чалавекі. Апроч штрафаў актывісты атрымалі 375 сутак арышту.

Агульная сума штрафаў, якія прысудзілі актывістам, – каля 65 тысяч долараў.

Чэмпіёнам па сутках стаў аршанскі блогер Дзмітрый Казлоў (вядомы пад псеўданімам Шэры Кот), агулам ён атрымаў 120 сутак арышту.

Палітыкі Вячаслаў Сіўчык і Павел Севярынец атрымалі па 45 сутак арышту.

АЎКЦЫЁН

## «Шайба» за 8 мільёнаў долараў

*У Мінску прадаюць знакамітую «шайбу» ля гасцініцы «Беларусь»*



Будынак рэстарана плошчай 7,5 тыс. кв. метраў, празваны «шайбай» за характэрнае аблічча, прапануюць набыць за 17,9 мільёна рублёў.

Аб'ява аб продажы апублікавана на сайце аднаго са сталічных агенцтваў нерухомасці.

Будынак пабудавалі ў 1988 годзе. У 1990-я тут праводзіліся дыскатэкі, а пазней з'явіўся Westworld Club. У апошні час у будынку размяшчаўся рэстаран-казіно «Гарсэт».

ЧУЛІ?

## У Беларусь прывезлі з Казахстана парэшткі паэта Змітрака Бядулі

Ён памёр падчас вайны ў эвакуацыі і быў пахаваны ў горадзе Уральску.

Перапахаванне адбудзецца ў Мінску. Дакладныя час і месца пакуль не называюцца.

СТОП-КРАН

## Купляйце беларускае!

*Чыноўнікі маюць намер знізіць долю імпартных прадуктаў у беларускіх крамах.*

Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю распрацавала рэкамендацыі, якіх з 1 сакавіка папросяць прытрымлівацца гандаль, пастаўшчыкоў і вытворцаў. Яны павінны паспрыяць дасягненню вызначаных мэт.

У планах да канца 2020 года скараціць колькасць харчовага імпарту да 15 працэнтаў, а да канца 2030-га – да 14 працэнтаў.

ПАД ГРАДУСАМ

## Мокры снег у першы дзень вясны

*На выхадныя сіноптыкі абяцаюць складанае надвор'е.*

***29 лютага*** месцамі па краіне пройдзе невялікі кароткачасовы снег, мокры снег. Уначы і зранку на асобных участках дарог будзе слізка. Вецер чакаецца заходні, паўднёва-заходні ўмераны. Уначы будзе 1–7 градусаў марозу, удзень чакаецца ад -1 па паўночным усходзе да +6 па паўднёвым захадзе краіны.

***1 сакавіка*** ўначы пераважна па заходняй палове, а зранку і ўдзень на большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць ападкі – мокры снег і дождж. Вецер будзе паўднёвы, паўднёва-заходні парывісты. Уначы тэрмометры пакажуць ад -4 да +3, удзень прагназуецца 1–7 са знакам "плюс".

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

Шкловский завод газетной бумаги добивается возврата 10,3 млн евро за поставку некачественного оборудования. В настоящее время идет работа по реализации решений Венского арбитража, информируют naviny.by.

Как сообщил председатель концерна «Беллесбумпром» **Юрий Назаров** в эфире программы «Неделя» на телеканале СТВ, на заводе в Шклове совместно с европейским партнером велась работа по созданию производства бумаги – основы для плитной продукции.

*«К сожалению, некоторые узлы и агрегаты нам поставили не те, которые могут дать качественную продукцию. Поэтому мы дополнительно возьмем определенный объем финансирования, до конца года поменяем некоторые узлы и со следующего года начнем производить бумагу-основу»,* – рассказал Назаров.

РЭЗАНАНС

## «Ніхто не выбачыўся...»

*Мінчанін Дзмітрый Серада тры гады дамагаўся кампенсацыі за тое, што ў яго кватэру ўварваўся АМАП, які на вачах у жонкі і маленькай дачкі затрымаў яго з ужываннем сілы.*

У той жа дзень стала вядома, што Дзмітрый не мае ніякага дачынення да злачынства, у якім яго падазравалі.

Нягледзячы на тое, што МУС сваю віну не прызнала, суд прыняў рашэнне спагнаць на карысць пацярпелага грамадзяніна каля 3 тысяч рублёў – на рамонт разбітай кватэры і лячэнне. Кампенсацыю выплацілі з бюджэту.

Праўда, як распавёў Дзмітрый Серада TUT.by, "ніхто з МУС так і не папрасіў прабачэння". Зараз ён збіраецца падаваць у суд іск аб пакрыцці маральнай шкоды і абскардзіць адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

**Віктар ШПАК.**

РЭГІЁН

## Першы «Грошык» з'явіўся на Гродзеншчыне

*Новую сетку крам з беларускай назвай "Грошык" развівае кампанія "Еўраопт". Першая такая гандлёвая кропка з'явілася ў Слоніме на Гродзеншчыне.*

Новы рытэйлер збіраецца канкурыраваць з расійскімі гандлёвымі сеткамі "Светлафор" і "Дабрацэн". У крамах сеткі "Грошык" будуць прадстаўлены тавары пераважна беларускай вытворчасці па нізкіх коштах, якія плануецца забяспечыць шляхам мінімізацыі выдаткаў. У першую чаргу будуць зменшаны затраты на лагістыку, а таксама на персанал.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РЕПЛИКА

## Ну и патриот!

Почти на всех сайтах висит информация о том, что блогер Владимир Цыганович собрал у офиса государственного концерна «Белнефтехим» несколько десятков человек с требованием объяснить, почему так часто стали повышаться цены на топливо. Что ж, накипело у людей.

Но меня возмутило такое высказывание новоиспеченного блогера: «Если у государства все так плохо, то продавайте тогда свои самолеты, свои «Майбахи», пересаживайтесь на «Шкоды» и показывайте, что вы тоже экономите, что вы вместе с нами». Почему чиновников нужно пересаживать на «Шкоды»? Это ведь тоже иномарка. А почему им не предложить те машины, которые производятся у нас, в Беларуси? Если Владимир Цыганович позицинирует себя патриотом нашей страны, то не нужно агитировать за «Шкоду». Вот так, дорогой!

**Федор КРАВЧЕНКО, служащий.**

ШТО ХВАЛЮЕ...

# «2 сакавіка з'язджае, напэўна, апошняя партыя...»

*Група кітайскіх студэнтаў па-ранейшаму знаходзіцца на каранціне ў лагеры пад Мінскам.*

Нагадаем, што на пачатку гэтага месяца стала вядома, што ў сувязі з распаўсюджваннем каранавіруса студэнтаў, якія вяртаюцца з канікул з Кітая, адпраўляюць на каранцін у аздараўленчы цэнтр "Брыганціна", што ля Радашковічаў.

Міністэрства аховы здароўя тады патлумачыла, што такім чынам "*праводзіцца комплекс санітарна-супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў, накіраваных на папярэджванне завозу і распаўсюджвання інфекцыі, выкліканай новым каранавірусам*".

Гаворка ішла пра дадатковыя меры для студэнтаў, якія не былі ў кантакце з хворымі і не наведвалі эпідэмічна небяспечныя раёны.

У аздараўленчы цэнтр былі накіраваны спецыялісты, а медыцынскія супрацоўнікі, якія працуюць у лагеры, прайшлі дадатковую падрыхтоўку.

Паводле дадзеных Міністэрства адукацыі, цяпер у Беларусі навучаюцца каля 5 тысяч студэнтаў з Кітая.

Дырэктар «Брыганціны» **Уладзімір ПАЛЯКОЎ** сказаў "Народнай Волі":

*– Сёння, 27 лютага, ад нас з'ехала вялікая партыя студэнтаў – 57 чалавек, а 2 сакавіка з'язджаюць астатнія. Першыя, хто прыехаў яшчэ 27 студзеня, пакінулі комплекс раней. Але, шчыра кажучы, нават і не ведаю, ці прывязуць некага пасля 2 сакавіка. Не ад нас залежыць.*

*У комплексе працавалі медыцынскія спецыялісты з лабараторыі, здаецца, ва ўсіх усё нармальна. Штодзённа мералі ў студэнтаў тэмпературу, нічога не знайшлі. Дарэчы, я і сам на ўсялякі выпадак кожны дзень правяраю ў сябе тэмпературу.*

Тым часам Міністэрства аховы здароўя ўзмацніла санітарна-эпідэміялагічны нагляд у сувязі з распаўсюджваннем каранавіруса, які перакінуўся ўжо на еўрапейскія краіны. Пра пачатак эпідэміі аб'явілі ў Германіі. Першыя выпадкі каранавіруса зафіксаваны ў Паўночнай Македоніі, Грузіі, Нарвегіі, Эстоніі і Даніі.

Паводле апошніх звестак, на сёння ў Беларусі выяўлена каля 90 чалавек, якія раней былі ў Кітаі, з сімптомамі вострай рэспіраторнай інфекцыі. Усе яны шпіталізаваны ў інфекцыйныя бальніцы.

"*Усяго ў Беларусь прыбылі 325 студэнтаў з КНР,* – паведамляе прэс-служба Міністэрства аховы здароўя. – *З іх 141 студэнт зараз знаходзіцца пад медыцынскім наглядам у «Брыганціне» і ў Мінскім абласным цэнтры медыцынскай рэабілітацыі «Загор'е».*

*Выпадкі каранавіруса на тэрыторыі Беларусі не зарэгістраваны*".

**Алесь СІВЫ.**




| КРАІНА | ЗАХВАРЭЛА |
|---|---|
| Кітай | 78,000 + |
| Паўднёвая Карэя | 1,595 |
| Іншыя | 705* |
| Італія | 453 |
| Японія | 189 |
| Іран | 139 |
| Сынгапур | 93 |
| ЗША | 60 |
| Тайлянд | 40 |
| Бахрэйн | 33 |
| Тайвань | 32 |
| Нямеччына | 27 |
| Кувэйт | 26 |
| Аўстралія | 23 |
| Малайзія | 22 |
| Францыя | 18 |
| Віетнам | 16 |

| КРАІНА | ЗАХВАРЭЛА |
|---|---|
| Гішпанія | 13 |
| Аб'ядн. Арабскія Эміраты | 13 |
| Вялікабрытанія | 13 |
| Канада | 11 |
| Ірак | 6 |
| Расея | 5 |
| Аман | 4 |
| Філіпіны | 3 |
| Харватыя | 3 |
| Індыя | 3 |
| Ізраіль | 2 |
| Лібан | 2 |
| Фінляндыя | 2 |
| Швэцыя | 2 |
| Пакістан | 2 |
| Аўстрыя | 2 |

| КРАІНА | ЗАХВАРЭЛА |
|---|---|
| Афганістан | 1 |
| Нэпал | 1 |
| Камбоджа | 1 |
| Нарвэгія | 1 |
| Альжыр | 1 |
| Бэльгія | 1 |
| Грузія | 1 |
| Данія | 1 |
| Паўночная Македонія | 1 |
| Швайцарыя | 1 |
| Бразылія | 1 |
| Румынія | 1 |
| Эстонія | 1 |
| Эгіпет | 1 |
| Грэцыя | 1 |
| Шры Лянка | 1 |




*У тым ліку эвакуаваныя з круізнага лайнэра Diamond Princess у Японіі.
Крыніца: Паведам svaboda.org (RFE/RL)

Народная Воля
http://www.nv-online.info
28 ЛЮТАГА 2020 г.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Уважение к учителю

19 февраля 2020 года на встрече с учащимися и педагогами Волковысского колледжа Гродненского государственного университета имени Янки Купалы заместитель главы Администрации президента Беларуси Ольга Чуприс сделала примечательное заявление: *«Обществу необходимо стать на защиту учителя»*.

Что тут возразишь? Слова абсолютно справедливые, хотя я написал бы *«встать на защиту учителя»*. Справедливые – тем более что много лет назад более высокий государственный деятель Беларуси сказал нечто похожее – только, простите за выражение, менее высоким стилем:

– Потеряем учителя – капец, будем ходить пьяными и дурными.

Если мне память не изменяет, это было сказано и вовсе в 2003 году. Семнадцать лет прошло, а защищать учителя все еще надо.

Я пришел работать в школу в 1986 году. То время называю «благословенным горбачевским временем, когда хотелось работать, давали возможность работать – и еще за это платили». Между 1986 и 2003 годами прошло семнадцать лет, и еще семнадцать – между 2003-м и 2020-м. В 1986 году учителя никто не терял. Общество его уважало. Опыт творчески работающих педагогов пропагандировали немногочисленные государственные телеканалы, о них писали газеты и журналы, издавали их книги. А за семнадцать лет вдруг оказалось – капец! Теряем! Будем ходить пьяными и дурными! И еще через семнадцать лет – констатируем: да, обществу необходимо встать на защиту учителя, потому что – вот такой он беззащитный!

Когда я работал, мне нужно было заполнять три документа. Школьный журнал – это, как говорится, святое: заполняешь каждый день, одинаковыми чернилами, аккуратно, чтобы проверка не подкопалась. Второй – тетрадку с планами-конспектами уроков. Но тут завуч особо не придиралась, если ты показывал результат на уроке и во внеклассной деятельности по предмету; результат был важнее конспекта. И третий – тетрадка с фиксированием посещений учеников на дому – если ты был классным руководителем. Все.

Я не спрашиваю, сколько бумаг нужно заполнять сегодня. Думаю, учителя воспримут этот вопрос как издевательство. Во всяком случае те, кто ведет свои странички в социальных сетях.

И не спрашиваю, сколько им платят. Я в 1986 году получал на руки 132 рубля, поскольку нагрузка была чуть выше ставки. На эти деньги можно было жить – без роскоши, но можно было. Да и роскоши особой в те времена не было. Сейчас…

Племянница моей жены, работающая в детском саду в Минске, рассказала, к чему свелась для нее реформа заработной платы. Нет, ставка осталась прежняя. И с общим фондом заработной платы ничего не случилось (об этом, кстати говоря, госпожа Чуприс, насколько можно судить по сообщениям прессы, особо высказалась в Волковыске). Там другая проблема. Уменьшился премиальный фонд, причем сильно уменьшился. Опытный директор любого учебно-воспитательного учреждения использовал премии и надбавки для того, чтобы поддержать тех сотрудников, кто реально нуждался в такой поддержке – и при этом действительно хотел и умел работать. Сейчас этот инструмент стимулирования и поддержки ослаб.

Полагались учителю и воспитателю детского сада также деньги на профессиональное самосовершенствование – то есть на покупку методической литературы. Сейчас эта статья выплат – по крайней мере в детских садах – также уменьшилась. Спросил:

– На сколько?

Ответ:

– Раньше могла книгу себе раз в месяц купить, сейчас – пару тетрадок…

Возможно, преуменьшила сгоряча. Но в принципе – представьте себе работника системы образования, который не может себе позволить раз в месяц купить книгу. Представили? Вот где действительно «капец» – как говорили еще в 2003 году.

Я не критикую Ольгу Чуприс. Она – сама выходец из системы образования: доктор наук, работала в Белгосуниверситете проректором. Вероятнее всего, правильно думает: общество должно встать на защиту учителя. Только – от кого? И в чем именно эта защита должна выражаться? Ведь не общество, не ученики и не родители ведут политику, уменьшающую количество денег, получаемых нашими педагогами на руки. Не общество требует заполнять кучу никому не нужных бумаг для отчетности на всех уровнях управления образованием. Не общество меняет учебники с такой скоростью, что, будь учитель семи пядей во лбу, и то ему не успеть их освоить.

Не общество.

Тогда – от кого защищать?

От айфона в руках ученика? От него не защитишься. Потому что если ученик видит, что учит его человек, одетый хуже его родителей, человек, который не в состоянии защитить себя сам, – так чему ты у него научишься? Быть таким же, как он?

Мне доводилось учить разных детей. Я помню, ко мне пришла мать одного из учеников-хорошистов. Он учился в спортивном классе, не сдал назизусть стихи и два сочинения за первую четверть. Я поставил «тройку». Мама пришла спросить, что именно Дима должен сдать.

– Зоя Федоровна, я ведь четвертную оценку уже не исправлю.

– Александр Иосифович, а я не за этим пришла. Он должен понимать: у него нет права подвести отца. Все выполняют школьную программу – и Дима должен.

И во второй четверти Дима Домаш не только выполнил программу, но и сдал «хвосты» за первую. Правда, на оценку за первую четверть это действительно не повлияло.

Вот это и было – уважение к учителю.

Правда, время было другое…

СУД

# Як баброуйскага пенсіянера другі раз асудзілі за наркотыкі

*У 2010 годзе Аляксандр Каваленка дамогся апраўдальнага прысуду пасля таго, як ужо адседзеў у турме 3 гады і 2 месяцы з дзевяці прызначаных.*

Дзевяць гадоў таму я прысутнічаў у Вярхоўным судзе на разглядзе касацыйнай скаргі Каваленкі. Тады было прынята ў пэўнай ступені нечаканае рашэнне: цалкам апраўдаць! І гэта пасля таго, як чалавек больш за тры гады ўжо правёў за кратамі. Пасля таго, як стала ясна: справа была сфальсіфікавана, а сітуацыя паказала, якімі метадамі працуюць работнікі міліцыі, судоў і пракуратуры.

*«Усё пачалося з таго, што ў 2004 годзе па абвінавачванні ў здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства быў арыштаваны і асуджаны да вялікага тэрміну мой сын»*, – распавёў Аляксандр Якаўлевіч. *– Лічу, што ён быў асуджаны незаконна. Мы з жонкай разнастайнымі спосабамі змагаліся за свабоду сына, але вынік барацьбы прывёў да таго, што я пачаў па тэлефоне атрымліваць званкі з пагрозамі.*

*Невядомыя людзі тэлефанавалі мне і адкрытым тэкстам казалі: «Запомні, калі не перастанеш займацца сваімі пошукамі праўды, падкінем наркотыкі і сядзеш разам з сынам». Я асабліва не надаваў гэтаму значэння, але, як аказалася, дарма»*.

19 кастрычніка 2006 года Аляксандра Каваленку ў Бабруйску затрымалі супрацоўнікі міліцыі і абвінавацілі ў гандлі наркотыкамі. Суд, доўга не разбіраючыся, вынес прысуд – 9 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Асноўным сведкам, на чые паказанні абапіраўся суд, была жанчына, якая, як высветлілася пазней, сама ўжывала наркотыкі, была ў аператыўнікаў «у распрацоўцы» і дала неабходныя паказанні на Каваленку.

Пазней гэтая жанчына ўсё-такі прызналася на судзе, што *«не можа жыць з гэтым каменем на душы»*, і распавяла, як супрацоўнікі міліцыі загадалі ёй падкінуць Аляксандру Каваленку наркотыкі. Пры гэтым шантажыравалі турэмным тэрмінам.

*«Супярэчлівыя паказанні сведак можна было чытаць у справе, як дрэнную дэтэктыўную камедыю»*, – з сумам успамінаў Аляксандр Каваленка. *– Я не склаў рукі і нават з калоніі працягваў змагацца. Прайшоў усе этапы абскарджвання, дайшоў да Вярхоўнага суда. І не прасіў, каб мяне шкадавалі. Проста прасіў разглядзець маю крымінальную справу на падставе закона. Віноваты – карайце. Не – вызваляйце. Бо на маім месцы мог апынуцца любы чалавек, калі ён стаў непажаданы. Але маленькі цуд адбыўся: у 2010 годзе мяне цалкам апраўдалі!*

*І яшчэ адзін момант. У калоніі аўтарытэтныя людзі ведалі пра тое, што мяне падставілі, і я быў там паважаным чалавекам. Парадокс! Мяне абаранялі крымінальнікі, а не тыя, хто павінен быў абараняць па абавязку службы. Хаця, напэўна, праўду кажуць, што ў крымінальным свеце кодэкс гонару значыць значна больш, чым для некаторых людзей у пагонах, якія гэты гонар ужо даўно згубілі»*.



Тая гісторыя мела шчаслівае завяршэнне, але праз дзесяць гадоў мы ўбачылі сумны працяг – днямі суд у Бабруйску прысудзіў Аляксандру Каваленку да 6 гадоў зняволення за *«незаконны збыт ... асабліва небяспечных наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў»*.

Адвакат пенсіянера **Людміла Аднамах** заявіла, што віна Каваленкі не даказана, у справе ёсць шмат супярэчнасцяў. Таксама не выключана, што быў факт агавору з боку сведак.

*«Магчыма, гэта працяг гісторыі дзесяцігадовай даўніны*, – кажа Валянціна Міхайлаўна, жонка Аляксандра Каваленкі. *– Помста за тое, што муж у 2010 годзе дамогся свайго поўнага апраўдання і тым чынам паказаў сутнасць нашых судоў і сілавых структур. За тое, што мы працягвалі змагацца за вызваленне сына. Натуральна, гэта рашэнне суда будзе абскарджана»*.

Дзесяць гадоў таму Аляксандру Каваленку ўдалося даказаць сваю невінаватасць. Ці адбудзецца таксама і гэтым разам?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РЭКОРД

# Что происходит с долларом?

*С начала года курс доллара вырос на 6,1 процента – до 2,2378 рубля.*

Курс доллара установил новый рекорд по итогам торгов 27 февраля на Белорусской валютно-фондовой бирже. Стоимость американской валюты составила 2,2378 белорусского рубля.

Это нынче очередной пик. А до этого максимальный курс доллара был отмечен четыре года назад – в феврале 2016-го, когда составил 2,2069 рубля (с учетом деноминации).

– Сегодня очередной абсолютный максимум за всё время, – подчеркнул старший аналитик «Альпари» **Вадим Иосуб.**

## Почему в Беларуси растет доллар?

Финансовый аналитик объяснил рост курса доллара в Беларуси как внутренними, так и внешними факторами.

В Беларуси происходит снижение курса национальной валюты. На это есть свои причины. Во-первых, рост доходов населения привел к тому, что и в декабре, и в январе население превратилось из чистого продавца валюты в чистого покупателя. Во-вторых, есть проблемы с экспортом товаров. Прежде всего это касается экспорта нефтепродуктов на фоне отсутствия поставок нефти из России, а также экспорта калийных удобрений крупнейшему покупателю – Китаю, с которым не подписан контракт.

«В результате наших внутренних проблем растет стоимость валютной корзины. С начала года она выросла на 2,3 процента. Рост валютной корзины означает обесценивание белорусского рубля в среднем ко всем трем валютам – доллару, евро и российскому рублю», – пояснил Вадим Иосуб.

Но быстрее других валют дорожает именно доллар. Он растет практически ко всем мировым валютам, в том числе и большинства развитых стран. К примеру, евро по отношению к доллару находится вблизи минимумов с весны 2017 года, австралийский доллар – на одиннадцатилетних минимумах.

## Каким будет курс в 2025 году? Официальная версия

Рост доллара финансовый аналитик объяснил тем, что американская экономика выглядит гораздо более здоровой, чем экономики других стран, включая Великобританию и Японию.

Доллар растет также из-за распространения коронавируса. Если раньше внимание было приковано к Китаю, то сейчас уже и к Южной Корее, Ирану и Италии. Американский доллар в этой ситуации играет роль «валюты-убежища». Мировые инвесторы бросаются скупать именно доллар и американские государственные облигации для защиты от рисков.

«Если наложить друг на друга два процесса (снижение курса белорусского рубля и опережающий рост доллара), получаем рост доллара с начала года на 6,1 процента. Но если разложить на факторы, то больший вклад в изменение курса доллара к белорусскому рублю внес рост доллара на мировых рынках»,– отметил Вадим Иосуб.

## В условиях неопределенности

Глава Национального банка Павел Каллаур в середине февраля заявлял, что колебания на валютном рынке Беларуси в этом году будут больше, чем в прежние годы.

«Что касается ситуации в ближайшей перспективе, это будет зависеть от того, в какой степени будут реализованы те риски, которые завязаны на эпидемии коронавируса», – отмечал Павел Каллаур.

По его словам, этот момент окажет прямое влияние на ситуацию в мировой экономике, а также косвенное влияние на ситуацию в экономиках России и Беларуси.

«Кроме того, развитие ситуации на валютном рынке будет зависеть от того, насколько быстро хозяйствующим субъектам удастся договориться по ценам на поставку нефти, поскольку это также оказывает влияние на девальвационные ожидания населения», – пояснял глава Нацбанка.

Министерство финансов в бюджет на этот год закладывало среднегодовой курс в 2,24 рубля за доллар. Глава Минфина Максим Ермолович подчеркивал, что такой курс отражает стрессовый сценарий.

Независимые экономисты полагают, что в 2020 году среднегодовой курс доллара в Беларуси может вырасти примерно на 10 процентов. По прогнозам Исследовательского центра ИПМ, в 2020 году среднегодовой курс составит 2,31 рубля за доллар.

## В Беларуси могут вновь ввести валютные ограничения?

Вадим Иосуб не взялся прогнозировать курс доллара на конец года из-за непредсказуемости внешних и внутренних факторов, влияющих на него. Но в ближайшее время, если вирус продолжит гулять по планете, а Беларусь и Россия не подпишут нефтяные контракты, доллар будет дорожать.

«Не факт, что всё оставшееся до конца года время доллар будет только дорожать. Скорее всего, с учетом плавающего курса в какой-то момент рост доллара сменится снижением, но о цифрах и сроках пока говорить невозможно», – отметил финансовый аналитик.

Тем, кто держит доллары, Вадим Иосуб порекомендовал не переживать. Тем же, кто в условиях неопределенности планирует покупать крупную сумму, советует делать это по частям. К примеру, раз в неделю или месяц.

«Получится купить по среднему курсу. Не самому дешевому, но и не по самому дорогому», – сказал финансовый аналитик.

*(Naviny.by.)*

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# Нерухомы інвалід стаў «рэкрутарам» і набірае людзей на працу ў IT

*Жыхару Барысава Аляксандру Макарчуку 36 гадоў. Амаль палову з іх ён прыкаваны да ложка.*

У інвалідная калясцы Аляксандр апынуўся ў 2003 годзе: да таго часу працаваў санітарам у бальніцы, быў жыццярадасным і актыўным чалавекам. Цяжкае захворванне не ўспрыняў як прыгавор на адзіноту, а распачаў змаганне за жыццё ў новай якасці.

– Спрацаваў інстынкт самазахавання, – тлумачыць Аляксандр. – Паколькі ў Беларусі няма дыстанцыйнага навучання, я паступіў у расійскі Міжрэгіянальны адкрыты сацыяльны інстытут.

Пасля заканчэння інстытута ў 2017 годзе ён стаў індывідуальным прадпрымальнікам і распачаў працу па падборы персаналу для IT-кампаній: навучыўся кіраваць камп'ютарам пры дапамозе голасу і гукаў і гэтак кантактуе са сваімі дзелавымі партнёрамі і сябрамі.

– Працадаўцы звяртаюцца да мяне з просьбай знайсці спецыялістаў, а людзі з абмежаваннямі звяртаюцца ў пошуках працы. Не ўсім удаецца дапамагчы, бо розныя асобы маюць не аднолькавага ўзроўню навыкі. Але многія з тых, хто ў свой час выйшаў на мяне, зараз працуюць менеджарамі па продажах, памочнікамі кіраўнікоў, выкладчыкамі...

Акрамя таго, Аляксандр Макарчук заснаваў і ўзначаліў дабрачынны фонд «У Савы»: дыстанцыйнае навучанне людзей з інваліднасцю з перспектывай далейшага працаўладкавання. Групай падтрымкі прадпрымальніка сталі каля трыццаці валанцёраў у розных гарадах Беларусі, а таксама з Украіны і Расіі. Яны праводзяць курсы па праграміраванні, вывучэнні моў, розных накірунках мастацтва і іншыя.

– Наша задача – даць магчымасць людзям з інваліднасцю падзяліцца навыкамі і ведамі з іншымі, хто таксама мае інваліднасць. Калі і выкладчык, і студэнт добра разумеюць, што такое абмежаванні, тады вынікі найлепшыя. Бо няма ніякіх паблажак: людзі здаровыя могуць шкадаваць людзей з інваліднасцю. Мы ж знаходзімся ў роўных умовах і маем роўныя цяжкасці.

Праз курсы прайшлі ўжо больш за 300 чалавек, якія зараз працуюць у розных дзяржаўных і прыватных установах. У снежні мінулага года Аляксандр Макарчук і яго дабрачынны фонд «У Савы» атрымалі прэстыжную ўзнагароду «Лідар года – 2019» на Міжнародным бізнес-форуме ў Мінску. А зараз разам з Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам руплівец распрацоўвае мабільны дадатак: сайт вакансій для інвалідаў. Таксама Аляксандр плануе адкрыць у Барысаве Цэнтр сацыяльнага прадпрымальніцтва для навучання бізнесу і навыкам прадпрымальніцтва людзей з інваліднасцю і прадстаўнікоў розных дыскрымінаваных сацыяльных груп: пенсіянераў, маламаёмных, членаў шматдзетных сем'яў.

Цяжкае захворванне не дазваляе Аляксандру выконваць нават самыя простыя фізічныя рухі і дзеянні, а таму ён мае патрэбу ў пастаяннай дапамозе. Усе 16 гадоў яму дапамагаюць блізкія сябры, частымі гасцямі ў доме актывіста бываюць таксама паплечнікі – валанцёры праекта «У Савы».

Аляксандр не губляе надзеі паправіць сваё здароўе: «Я не спадзюся, што буду хадзіць, але хачу ў вярнуць сабе рукі, каб мог сам сябе абслугоўваць». Такую аперацыю гатовы правесці ўрачы ў Тайландзе. Пералёт і аперацыя каштуюць 32 тысячы долараў. І зараз Аляксандр збірае гэтыя сродкі.

**Галіна АБАКУНЧЫК.**

*г.Барысаў.*

ЧУЛІ?

# Адмяняюць рэйсы ў Італію

*Авіякампанія Wizz Air адмяняе частку рэйсаў у Італію з-за эпідэміі каранавіруса.*

Дакладна вядома пра адмененыя рэйсы на сакавік і красавік з гарадоў Польшчы і з Рыгі. Пра гэта паведамляе сайт Vandrouki.by.

Wizz Air у такой сітуацыі прапануе тры варыянты: альбо памяняць квіток на іншы (магчыма, з даплатай), альбо вярнуць грошы на банкаўскі рахунак (гэта няхуткая аперацыя, але ўрэшце грошы ўсё ж прыходзяць), альбо вярнуць на рахунак Wizz Air 120% ад цаны білета (гэтыя сродкі можна адразу патрацідь на іншыя квіткі).



БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

Пятрас АУШТРЯВИЧЮС:

# «Это наше право – не признавать белорусский парламент»

*Евросоюз ждет от Беларуси настоящих и справедливых выборов.*

*Об этом сказал постоянный докладчик по Беларуси комитета Европарламента по иностранным делам **Пятрас Ауштрявичюс** (Литва).*



### О выборах

*Пятрас Ауштрявичюс был одним из главных спикеров экспертного клуба, посвященного отношениям Евросоюза и Беларуси.*

*В своем вступительном слове он отметил, что в Европе ожидали совсем других выборов в белорусский парламент.*

*Услышав это, «Народная Воля» поинтересовалась, чего Евросоюз ждет от предстоящих президентских выборов.*

– Мы ждем, что у электората будет возможность выбирать, – *ответил депутат Европарламента.* – Это значит, что все кандидаты, которые будут соответствовать необходимым критериям, должны быть зарегистрированы. Им должны быть созданы нормальные условия для проведения кампании. Случится ли так – увидим, есть различные прогнозы.

Вы не найдете ни одного парламента в Европе, где не было бы оппозиции. Это естественно. Мы не только поднимаем руки и нажимаем на кнопки. Нормальный парламент – это не Великое собрание Китая, где нет кнопки «нет». А у нас есть три кнопки – «за», «против», «воздержался», и мы пользуемся своим правом нажимать на ту или иную. Думаю, такое право должно быть предоставлено всем.

Если мы не признаем белорусский парламент, как мы можем проводить встречи в Национальном собрании? Это наше право – не признавать.

### Об Островецкой АЭС

*Пятрас Ауштрявичюс считает, что жить рядом с Белорусской АЭС весьма небезопасно.*

– Мы имеем фундаментальное право не согласиться с выводами, которые нам передает белорусская власть по Островцу, – *говорит политик.* – После Фукусимы МАГАТЭ сделала выводы, что станции, которые находятся меньше чем в 100 километрах от городов, не должны строиться. Так что, тем, кто живет в Вильнюсе, нужно покупать чемоданы и забывать о нашем праве жить в этом городе, где жили наши и ваши предки? Мы не будем покупать чемоданы. Но мы не хотим, чтобы над нами висел этот атомный риск. Даже маленькое заражение реки Вилии приведет к потере 30 процентов питьевой воды в Литве. Почему мы должны жить рядом с АЭС? Кто имеет право принимать решение, вызывающее такие риски? Мы читали о различных инцидентах, которые возникали в ходе строительства АЭС.

Я скажу откровенно: страна, которая переживает не очень хороший период экономического развития, должна была хорошо подумать, заниматься ли подобной стройкой. Беларусь не имеет культуры атомной безопасности, у вас первая такая станция строится. И это очень дорого, это огромные инвестиции и затраты. И строительство АЭС – только начало всех расходов. Главные расходы появятся, когда надо будет хранить отработанное топливо. Никто не хочет принимать отработанное топливо за гроши, это стоит больших денег!

Островецкая АЭС – геополитический проект, который вызывает большую озабоченность. Это проблема Минска и Брюсселя, и она, я думаю, должна решаться в пользу безопасности, а не в пользу каких-то компромиссов.

Думаю, Светлана Алексиевич в своих книгах достаточно ясно описала все последствия Чернобыльской трагедии, которая случилась не так давно. Наше поколение все это прекрасно помнит, и мы не хотим, чтобы Чернобыль повторился.

### О Светлане Алексиевич

*Кстати, во время своего визита в Минск Пятрас Ауштрявичюс встретился с нобелевским лауреатом по литературе.*

– Светлана Алексиевич для меня большой авторитет, я читал многие ее книги, – *говорит литовец.* – И я очень надеюсь, что авторитет Светланы и ее высказывания не будут восприниматься как какие-то басни, это очень серьезное предупреждение для нынешних и будущих политиков, принимать серьезные решения нужно вдумчиво. Рискованные и поспешные решения о войне или строительстве АЭС могут быть причиной катаклизмов и искаженных жизней многих поколений. Мы живем в постчернобыльскую эпоху, и игнорировать подобные события – непростительная ошибка.

### О чашке кофе с Андреем Савиных

*Позавчера в Палате представителей должна была состояться встреча белорусских депутатов с делегацией Евросоюза. Журналисты даже получили приглашение на нее.*

*Однако в последний момент мероприятие сорвалось.*

*«Встречи не будет по вине европейской стороны, мы готовы к диалогу, но, к сожалению, наша протянутая рука осталась пустой», – так прокомментировал инцидент председатель постоянной комиссии по международным делам Андрей Савиных.*

*У Пятраса Ауштрявичюса другой взгляд. Он говорит, что Европарламент не признает легитимность Палаты представителей, поэтому и было принято решение не встречаться в здании парламента.*

– Как это повлияет на дальнейшие отношения Беларуси и Евросоюза? Тот факт, что мы приехали в Минск, показывает наш интерес узнать больше, встретиться и обстоятельно поговорить. И не надо из одного факта делать какие-то стратегические выводы. Наверное, надо и нашим партнерам в Минске готовиться к встречам более добросовестно, – *сказал депутат Европарламента.*

*Пятрас Ауштрявичюс говорит, что с удовольствием выпил бы чашку кофе с Андреем Савиных вне стен белорусского парламента.*

– Я люблю кофе и откровенные разговоры. Да, у нас есть планы встретиться, может, и поужинать вместе. И если так случится, это будет хороший знак… Думаю, в будущем будет много возможностей, но это не изменит нашу политику непризнания на сегодняшний день Национального собрания.

**Марина КОКТЫШ.**

---

СУД ДЫ СПРАВА

Юрый ГАНЦЭВІЧ:

# «Каб мае каровы не раўлі на ўсю вёску…»

Суд Чыгуначнага раёна Гомеля прызнаў экс-кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, фермера-блогера **Юрыя Ганцэвіча** вінаватым у дробным крадзяжы і пакараў яго паводле двух пратаколаў адміністрацыйным штрафам у тры базавыя велічыні – на 81 рубель.

*"Я адзін пратакол прызнаў: не разлічыўся за маток ізастужкі і металічныя вугалкі. Гаворка з аховай будаўнічай крамы спачатку ішла пра суму 6 рублёў з капейкамі, а пасля аказалася, што гэта недзе каля 19 рублёў. Каб не затрымлівалі, я гатоў быў заплаціць адразу. У мяне каля 80 галоў статку, каровы целяцца... Хто іх дагледзіць без мяне? Будуць раўці на ўсю вёску. Мне жывёла даражэй, чым рэпутацыя"*, – тлумачыць Ганцэвіч.




"Народная Воля" ўжо паведамляла пра гэту дзіўную гісторыю. Расказвала, што 24 лютага фермера Ганцэвіча прывезлі ў суд Чыгуначнага раёна з ізалятара часовага ўтрымання пад аховай міліцыі, каб разглядаць адміністрацыйную справу супраць яго за дробны крадзеж – паводле часткі 1 артыкула 10.5 КаАП. Тады фермер паскардзіўся, што блага сябе пачувае, бо ў ізалятары "тры дні нічога не еў і не піў". Прасіў таксама зрабіць суд закрытым.

Суддзя Яўген Шаршнёў, які пачаў разгляд пратаколаў з міліцыі, перапыніў пасяджэнне, каб выклікаць абвінавачанаму хуткую медыцынскую дапамогу. А пасля вырашыў вызваліць Ганцэвіча з-пад варты і адпусціць дахаты для папраўкі стану здароўя. Працягваць разглядаць адміністрацыйную справу меўся 26 лютага.

*"Напярэдадні мне патэлефанавалі з суда і папрасілі прыехаць,* – расказаў Юрый Ганцэвіч. – *Я прыехаў, прызнаў сваю віну па адным пратаколе, і суддзя пакараў мяне трыма базавымі. Сёння ў суд з'явіўся, каб сустрэцца з журналістамі, якія не ведалі пра такое развіццё падзей. Вось толькі не бачу зараз мясцовых тэлежурналістаў, якія здымалі мяне мінулы раз".*

Фермер дадаў, што па вяртанні дахаты пахаваў нованароджанае ягня, якое без патрэбнага догляду прапала.

Паводле слоў Ганцэвіча, сітуацыя з яго затрыманнем выглядала так: 21 лютага ён прыехаў у будаўнічую краму набыць пыласос. Патрэбнага не знайшоў. Хадзіў, глядзеў іншыя рэчы, размаўляў з кансультантам у секцыі, дзе прадаюць лінолеум.

*"Круціліся там каля мяне нейкія людзі,* – запэўнівае фермер. – *На выхадзе перастрэлі вартаўнікі, патрабавалі паказаць кішэні. Я адказаў: "Не буду гэтага рабіць – глядзіце самі". Яны выклікалі міліцыю. Былі сведкі. З маёй кішэні і дасталі ізастужку і металічныя вугалкі".*

Юрыя завезлі ў аддзяленне міліцыі Чыгуначнага раёна, сталі складаць пратакол. Паказалі яшчэ адзін акт на крадзеж шпінгалетаў. Відэазапіс з камеры назірання глядзелі, але там нельга было толкам нічога разабраць, сцвярджае фермер. У аддзяленні адзін з міліцыянтаў яму нібыта сказаў: "Як ты відэа робіш, так і мы".

*"Ну і змясцілі мяне ў "малпоўнік", а пасля адвезлі ў ізалятар,* – дадае Ганцэвіч. – *Тэлефон забралі, нават патэлефанаваць не далі, каб сказаць сваякам, дзе я і што рабіць з жывёлай. Машына мая каля крамы засталася. Я ўспомніў, што 5 ці 6 лютага я быў у гэтай будаўнічай краме, петлі купляў. Бо ўжо 7 лютага я паказваў іх на загародках для жывёлы ў сваім роліку на Youtube".*

У ізалятары ён паспеў атрымаць строгую вымову ад начальніка. Выціраў павуцінне пры стале, запэцкаў мініяцюрную відэакамеру. Адмовіўся таксама ад казённага харчавання. Пісаў просьбу, каб перадалі свае харчы, але гэтага не зрабілі. Таму галадаў, а яшчэ перажываў за жывёлу, не высыпаўся з прычыны холаду і незвычайных умоў.

Фермер кажа, што скаргу на штраф пакуль пісаць не будзе, бо пасля пагалоскі абставінамі яго затрымання займаецца сур'ёзная служба. Якая, не ўдакладніў.

Юрый Ганцэвіч набыў вядомасць у Гомелі мінулай восенню, калі балатаваўся кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Юбілейнай выбарчай акрузе разам з кіраўніком адміністрацыі Чыгуначнага раёна Віталём Уткіным. На свае перадвыбарныя пікеты фермер-кандыдат прывозіў з прыгараднай вёскі Пакалюбічы карову і коз. У перадвыбарных лозунгах прасіў не душыць фермераў падаткамі, выдзяляць ім больш зямлі. Пазней адкрыў свой канал на Youtube, дзе фіксуе розныя праявы нашага жыцця, у тым ліку і ў асяродку ўладных структур.

Не, "Народная Воля" друкуе гэты матэрыял не для таго, каб заступіцца за Ю.Ганцэвіча. Наадварот, калі ты, даражэнькі, выступаеш у ролі змагара за справядлівасць, то і не давай нагоды для таго, каб цябе кідалі ў ізалятар за нейкі дробны крадзеж. Лічыш, што нехта падкінуў у кішэню тваёй курткі маток ізастужкі, – дакажы. А яшчэ лепш – глядзі, з якім намерам круцяцца вакол цябе падазроныя людзі. Сёння ўсё можа быць…

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

**На здымку: Юрый Ганцэвіч на пікеце падчас парламенцкай выбарчай кампаніі.**

---

РЭГІЁН

## Вываз каштоўных кніг прыпынілі на мяжы

Гродзенскія мытнікі ў пункце пропуску "Бераставіца" затрымалі паляка, які спрабаваў без належных дакументаў вывезці з Беларусі 15 кніг, што ўяўляюць сабой культурную каштоўнасць.

Кнігі былі знойдзены ў багажніку аўтамабіля, на якім у якасці пасажыра ехаў грамадзянін Польшчы. Сярод іх асобнікі, выдадзеныя ў Варшаве, Полацку і Пецярбургу на пачатку XIX і XX стагоддзяў. Самае ранняе выданне датуецца 1822 годам.

Як паведамляе Гродзенская рэгіянальная мытня, мужчына заявіў, што не мае тавараў, якія падпадаюць пад абавязковае дэклараванне. У выніку праведзенай мытнай лабараторыяй экспертызы высветлілася, што знойдзеныя кнігі ўяўляюць сабой культурную каштоўнасць, а значыць, могуць перавозіцца праз мяжу толькі пры наяўнасці адпаведных дакументаў.

У адносінах да грамадзяніна Польшчы распачаты адміністрацыйны працэс, на кнігі накладзены арышт.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

## Два гады абмежавання волі прысудзілі ў Рэчыцы бацьку, які збіў дачку

Суд Рэчыцкага раёна пакараў двума гадамі абмежавання волі без накіравання ў папраўчую калонію адкрытага тыпу 38-гадовага мясцовага жыхара. Ён праз збіццё "выхоўваў" непаўнагадовую дачку. Пра гэта паведамляе Гомельскі абласны суд.

Крымінальную справу на бацьку завялі пасля таго, як школьныя педагогі заўважылі ў дзяўчынкі пабоі. Міліцыя высветліла, што бацька пакараў малую дачку за кнігу, якую тая прынесла са школы дадому без дазволу настаўнікаў. Дачка не стала адказваць на пытанні, і бацька правучыў яе за гэта сваім "выхаваўчым" метадам. Ну, а суд правучыў бацьку за такое "выхаванне".

**Анатоль ЛІПСКІ.**

---

СІТУАЦЫЯ

# У адным хостэле Гродна кітайскіх турыстаў не прымаюць з-за каранавіруса

Вядома, што пакуль толькі адзін хостэл у Гродне прыпыніў прыём кітайскіх турыстаў. Такое рашэнне ў хостэле не патлумачылі. У аддзеле спорту і турызму Гродзенскага гарвыканкама лічаць, што праблема надуманая.

### «Мы прынялі такое рашэнне...»

Хостэл «Сармація» знаходзіцца ў самым цэнтры Гродна на вуліцы Маркса. Яго дырэктар **Марыя Дзарахохава** патлумачыла, што зараз у іх кітайскіх турыстаў няма, а калі яны і звернуцца, то прынята рашэнне адмовіць ім у засяленні з прычыны каранавіруса. На ўдакладняючыя пытанні «Народнай Волі» жанчына адказваць адмовілася.

Дарэчы, падобная праблема ўзнікла і ў Мінску. Там, калі верыць інфармацыі інтэрнэт-сайтаў, некалькі хостэлаў адмовіліся прымаць турыстаў з Кітая. Іх уласнікі патлумачылі: прычынай прыпынення прыёму турыстаў з Паднябеснай стала тое, што прыезджыя з іншых краін перш за ўсё цікавяцца, ці ёсць кітайскія пастаяльцы, і, калі чуюць станоўчы адказ, адмаўляюцца сяліцца.

### «Праблема надуманая»

Намеснік начальніка аддзела спорту і турызму Гродзенскага гарвыканкама **Сяргей Кулакоў** заўважыў, што наогул пра гэта пачуў упершыню.

«Я нават не ўяўляю, што тут каментаваць, – здзівіўся на пытанне «Народнай Волі» Кулакоў. – Калі насамрэч ёсць праблема, то мы, вядома, запытаемся ў кіраўніка хостэла, чым тлумачацца такія паводзіны. Хутчэй за ўсё, ёсць нейкае непаразуменне».

### «У нас у засяленні не адмовяць...»

Дырэктар Kip Town Hostel Grodno **Інга Рагушка** распавяла, што і ў іх, і ў іншых хостэлах усе насцярожана сочаць за падзеямі з каранавірусам, але, калі б нават зараз кітайскія турысты і звярнуліся з просьбай аб засяленні, ім не адмовілі б.

Інгу супакойвае тое, што, хаця Беларусь і не забараніла грамадзянам Кітая наведваць нашу краіну, але на мяжы дзейнічае медыцынскі кантроль.

На мінулым тыдні, расказвае дзяўчына, у адным з хостэлаў Гродна жыла турыстка з Кітая: яна падарожнічала па Еўропе, а калі вярталася, то не змагла ўехаць у краіну і працягвае падарожнічаць; цяпер у Беларусі. У Гродне затрымалася на тры дні, паглядзела горад і з'ехала.

### «Турысты з Расіі коса паглядаюць на кітайцаў»

Кіраўнік хостэла «85» **Мікалай Жук** распавёў, што ў іх яшчэ нядаўна жылі цэлыя групы з Кітая, нават калі пра каранавірус ужо аб'явілі ў СМІ. І з імі ніякіх праблем не было. Праблемы, паводле сцвярджэння Мікалая Аляксандравіча, узнікаюць, калі прыязджаюць адзіночныя кітайскія турысты.

«Вельмі патрабавальныя, – кажа дырэктар. – За месца заплацяць 20 рублёў і патрабуюць, каб нікога больш у нумар не сялілі. Але мы рады ўсім гасцям і ні на кога ніколі не крыўдуем».

Адміністратар Hello Grodno Hostel **Юрый Кірвяк** распавёў, што яшчэ тыдні два таму ў іх былі турысты з Кітая і ніякіх праблем не ўзнікала: ні ў іх не было прэтэнзій да адміністрацыі, ні ў адміністрацыі да іх. Усе людзі адэкватныя.

«Адзінае, на што я звярнуў увагу: расійскія турысты пасля таго, як пачаўся каранавірус, сталі коса пaглядаць у бок кітайскіх падарожнікаў, – дзеліцца назіраннямі адміністратар. – А зараз у нас наогул няма турыстаў з Кітая».

Дарэчы, са слоў работнікаў хостэлаў, ніякай прафілактычнай работы медыкі з імі не праводзілі, хаця такія кансультацыі былі б зараз вельмі дарэчы.

### На Гродзеншчыне каранавірус не выяўлены

Тым часам, паводле афіцыйнай інфармацыі, пры ўездзе на тэрыторыю Беларусі ўсе праходзяць санітарна-каранцінны кантроль. Першы агляд праводзіць урач-інфекцыяніст пры перасячэнні граніцы, а затым на працягу двух тыдняў людзі, якія прыязджаюць з краін, дзе зафіксаваны каранавірус, знаходзяцца пад назіраннем дактароў участковай службы. Медыкі праводзяць двухразовае лабараторнае тэсціраванне на наяўнасць каранавіруса.

У Гродзенскай вобласці, паводле звестак ўрачоў-эпідэміёлагаў, праводзіцца назіранне за 24 грамадзянамі, якія за апошнія два тыдні наведвалі Кітайскую Народную Рэспубліку. Яны прайшлі лабараторныя абследаванні, і каранавірус не выяўлены.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

